№ 72 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы — 2 м. 70 ф., на 1 мес. — 90 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цана абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі — 25 фэніг.; дробныя абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 72 (267). Год III. Вільня, 13 верасьня 1918 г. Цана 10 фэн. (5 кап.)

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### 12 верасьня.

**Заходні тэатр.**

На паўночна-ўсход ад Бірс-Шоўт, ля Армонт'ер і канала Лябассе адбіты наступленьні непрыяцеляў. Увечары заўзятая артылерыйская бітва між дарогамі з Арра і Пэррон у Камбрэ. Англіцкія наступленьні на сэктары Маркіён-Гаўрэнькур адкінены. Між Айет і Эн артылерыйскі агонь павялічыўся. На вышынях ля Фім адкінены францускія атакі.

---

БАЗЭЛЬ. Як наказываюць французы, на заходнім фронце ўтворана вярхоўная ваенная рада саюзьнікаў. Мэта ваеннай рады разпрацаваньне і правядзеньне ў жыцьцё плянаў Фоша. Старшынёй Фош.

БЭРЛІН. 8 жніўня ў вялікай бітве на паветры ворагі ўтрацілі 61 самалёт. Гэта найвялікшая няўдача іх на паветры за ўвесь час вайны.

У жніўні нашы лятуны скінулі на ворагаў 1 мільён 157 тысяч 957 кілёгр. бомб.

БУКАРЭШТ. Прадстаўніком Румыніі ў Кіеве назначаны дырэктар канцэлярыі румынскага міністэрства міжнародных спраў Концэску.

БЭРЛІН. Амэрыканскі флаг разьвіваецца на парыскай ратушы. Каб зразумець гэта, трэба ведаць, што цяпер у Франціі ёсьць 1 з чацьвярцю мільёна салдатаў. Амэрыканы гаспадараць у Франціі быццам дома. У ваенных фабрыках францускіх рабітнікаў замяняюць амэрыканцамі. Пасьля міра амэрыканцы маняцца перарабіць цяперашнія ваенныя фабрыкі ў фабрыкі паравозаў, прыналежныя амэрыканскім кампаніям. Амэрыканская чыгунка ад Атлянтыцкага акіяну да заходняга фронту належыць да амэрыканцаў і ў мірным часе будзе вясьці конкурэнцыю з старымі чыгункамі. У Францыю прыехала многа багатыроў — прамышленікаў і фінансістаў дзеля устройства фабрык бяз учасьця францускага капіталу. Палудзенна-атлянтыцкія порты Франціі знаходзяцца ў руках амэрыканцаў. Амэрыканская паліцыя робіць там кантроль над францускімі грамадзянамі і ваенными. Сумежны з Ляроштэль абшар амэрыканцы занялі сваімі табарамі і складамі на 23 кілёмэтра. Пры гэткіх варунках зразумелым робіцца клік аднаго францускага гэнэрала: „Праўда, што амэрыканцы нас выратавалі, — але якую мы ім далі за гэта плату?!».

БАЗЭЛЬ «Corr. d. Se a» наказывае, што за месяц жнівень не вядома што зрабілася з 16 амэрыканскімі параходамі.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 11.IX. Сумы золатам і бумажкамі, якія згодна з дадатковай умовай Расея павінна была заплаціць Нямеччыне да 10.IX, учора прывезены ў Оршу і аддадзены прадстаўніком нямецкага імперскага банку.

БРЭСЛАУ. Тутэйшы асеньні кірмаш прыцягнуў вялікую украінскую дэпутацыю, каторая адзначыла вялікі попыт яе бацькаўшчыны на нямецкія тавары.

ГЭЛЬСІНГФОРС (В.Т.Б). 10.IX. Цераз Швэцыю вярнуліся 250 фінляндзкіх эмігрантаў з Амэрыкі, дзе яны пакінулі ўсё сваё дабро. Яны наказываюць, што пасьля 5 верасьня забаронен выезд з Амэрыкі ўсім мужчынам ад 18 да 40 гадоў.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 11.IX. Адміралцейства наказывае:

Выцяўшыся ў густым тумане, 2 верасьня затануў англіцкі контрміноносец.

МАСКВА. Савет народных камісараў пасьля доўгіх нарад схінуўся да палітыкі прымірэньня у расейска фінляндзк. пытаньні. Пастаноўлена для гэтай мэты пасладь расейскую дэпутацыю у Гэльсінгфорс.

БЭРЛІН. Міністэр міжнародных спраў прынцыпіальна высказаўся проціў выбарнага права, каторае дае некалькі галасоў асобам, належачым да некаторых прафэсій.

БЭРЛІН. Як наказываюць з Парыжу на заходнім фронце забіты ўнук Наполеона, прынц Бэрт'е і капітан Лесэпс, сын будаўнічага Суэскага каналу.

БРАУНШВЭЙГ (В.Т.Б.). 11.IX. Вядомы нямецкі палітыкі афрыканскі дасьледчык Карл Пэтэрс памёр у санаторыі.

ВЕНА (В.Т.Б). **Італьянскі тэатр.** На Асолёнэ нашыя войскі крывава адбілі новую атаку італьянцаў.

ВЕНА (В.Т.В.). 11.IX. **Урадова. Італьянскі тэатр.** На пласкагорыі Асіяго адкінены два непрыяцельскія наступленьні. На сэктары Асэлёнэ італьянцам удалося пасьля вялікай артылерыйскай падгатоўкі ўварвацца ў нашыя лініі, контратакай яны выкінены. На фронце Шіявы артылерыйская дзейнасьць.

---

## Беларускія Вучыцельскія курсы у Сьвіслачы.

Ад 15 кастрычніка 1918 г. да 15 жніўня 1919 г. ў Беларускай Сэмінарыі ў Сьвіслачы будзе адбывацца новы элементарны курс для беларускіх вучыцялёў і вучыцеляк.

Адпаведныя кандыдаты і кандыдаткі ад 18 да 30 гадоў могуць заяўляцца ў сваіх крэйсамтах; мясцовыя—проста ў кіраўніка курсамі, інспэктара Бэндзехі, у Сьвіслачы. Там-жа яны даведаюцца аб варунках прыёму.

---

*Вільня, 13 верасьня 1918.*

У тым нумары мы памясьцілі выняткі з тэксту дадатковае да Берасьцейскага міру ўмовы, датыкаючыя Беларусі.

Справядлівей, яны датыкаюць толькі часьці Беларусі: таго, што асталося на ўсход ад устаноўленай у Бярэсьці разьдзельнай лініі. Тэй-жа часьці нашага краю, якая знаходзіцца на заходзе ад берасьцейскае лініі, дадатковая ўмова зусім не чапае.

Дадатковая ўмова ізноў раз дзеліць Беларусь. Яна кажа, што Беларускія землі на ўсходзе ад ракі Бярэзіны, занятыя немцамі, — значыць: Вітэбшчына, усходні край Меншчыны і Магілёўшчына,—маюць быць аддадзены большэвіком у меру выплаты імі ўстаноўленых умовай сум — грашмі і таварамі. Часьць грошы павінна быць выплачана золатам (614 тысяч фунтаў чыстага золата).

Гэтак доля ўсходняе часьці новай окупацыі разьвязываецца ўмаўляючыміся старонамі. Спаўненьне гэтага залежыць цяпер толькі ад таго, ці савецкі ўрад здалее выплаціць абяцаныя грошы.

Аднак, паміж лініяй Бярэзіны і берасьцейскай мяжой ляжыць яшчэ вялізарны кусок Беларусі: гэта—ўся Меншчына, праўда, абрэзаная з паўдня ўкраінцамі. Углядаючыся ў тэкст дадатковае ўмовы, мы бачым, што пытаньне аб гэтым куску Беларускай зямлі астаецца адкрытым: аб ім, у меру спаўненьня Расеяй прынятых на сябе абавязкаў, мае быць зроблена ў будучыне новая расейска-нямецкая ўмова. Ці і Меншчыне суджана папасьці назад пад большэвіцкае панаваньне, дасьць адказ будучына.

Горкі жаль напаўняе сэрца кожнага шчырага сына Беларусі, чытаючы гэтыя весткі. Нас рэжуць ізноў і ізноў—па берасьцейскаму міру, па новай окупацыі, па апошняй дадатковай умове, па спадзяванай новай... І гэта — пад той час, як народ Беларускі вуснамі свайго нацыянальнага прадстаўніцтва—вуснамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі высказаў сваю волю разарваць усе дзяржаўныя зьвязі з паняволіўшай яго Маскоўшчынай і жыць незалежным дзяржаўным жыцьцём!

Ня будзем, аднак, гадаць аб будучыне: мо' яна акажацца і не такой сумнай, як здаецца, мо' агульныя палітычныя варункі разіюцца так, як ніхто ня жджэ. І ня будзем апускаць рук, думаючы, што ўжо ўсё прапала. Надварот: спакойным вокам глянем мы на вытварыўшаеся палажэньне і пастараемся знайсьці прычыну таго, што ў нас цяпер ёсьць.

Няма слоў: Беларусь, папаўшы ў сфэру інтарэсаў Нямеччыны і Расеі, магла спадзявацца здабыць незалежнасьць толькі тады, калі-б гэта зышлося з інтарэсамі гэтых дзяржаў, або прынамсі калі-б таго вымагала старана, якая мае магчымасьць дыктаваць другой свае варункі. *У гэты момэнт*, як відаць, палітычнае палажэньне, злажылася для нас непамысна, — і вось Нямеччына завярае Расею, што яна ня будзе вымагаць тварэньня новых гасударственных арганізмаў на землях новай окупацыі і ня будзе іх паддзержываць—ведама, пры спаўненьні расейцамі іх абяцанак. А ўсё-ж такі дзеля такой рэзалюцыі былі і ёсьць прычыны, каторыя каранятца ў *унутраных* варунках жыцьця Беларусі.

Чаму нікому ў галаву ня прыходзе думка аб разьдзеле Польшчы, Літвы, Украіны і іншых суцэльных этнографічных тэрыторый? Вельмі проста: бо там нацыянальнае пачуцьцё і нацыянальная сьвядомасьць народных мас выяўлены вельмі ярка, бо там няма элемэнтаў, якія мелі-бы на мэце развал свае Бацькаўшчыны, бо там ёсьць унутраная еднасьць. Лішне кры-

## Для падпісчыкаў.

*Дзеля таго, каб нашы падпісчыкі на правінцыі атрымлівалі „Гомана“ акуратна, яны павінны* **падпісывацца на газэту праз свайго старшыню (Amtsvorsteher) або праз Kreishauptmann'а.** *Іначэй почта газэты не перасылае.*

*Адміністрацыя.*

Прычына гэтага крыецца ў самой п'есе і ў варунках маладой нашай сцэны.

Перш за ўсё «Антось Лата» — рэч зусім ня сцэнічная: першая спроба аўтара—вядомага беларускага літэратара—пісаць для сцэны не ўдалася. Дый апрача таго прышлося ае шмат скараціць: на нашай сцэне нельга было паставіць дэкорацый 2-га акту, і ён быў зусім выкінут з п'есы.

Мы спадзяемся, што далейшая праца нашай драматычнай дружыны пойдзе і сёлета ўдачна: сіл у яе ёсьць даволі. Няўдачны-ж выбар першай п'есы павінен служыць для нашага новага рэжысэра перасьцярогай на будучыну.

× **«Летні час»** канчаецца 16 верасьня ў 3 гадз. на раніцы. Стрэлкі гадзіньнікаў будуць пераведзены на 1 гадзіну назад — да 2 гадз. Гэтак час ад 2 да 3 гадз. будзе паўторан двойчы.

× **Забарона.** Штадтгаўптман наказывае аб забароне жыхарам краю выrабляць службовыя пячаткі. За гэта будуць караць паводлуг 139 ст. расейскага статута аб карах.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошнія дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 9–10 | + 14,1° | + 9,8° |
| 10–11 | + 18,1° | + 9,9° |
| 11–12 | + 17,0° | +10,8° |

## З усяго Краю.

ГРОДНЯ. 3 верасьня двое салдат знайшлі двохтыднёвае дзіця, абкручанае ў белае сукно, паміж дваймых дзьвярэй інтэндантцва. Дзіця аддадзена ў хрысьціянскі прытулак.

ГРОДНЯ. Тут 10 верасьня адбыўся конгрэс сыоністаў з Вільні, Гродні, Беластоку, Коўны, Сувалк, Вількавішак і Ліды.

СТАНІСЛАВОВА. За каласаваньне жыта Барбара Савіноўская, Тэафіля Ярашкевіч і Ганна Трушкоўская с Пагулоўкі засуджаны ў вастрог. Яны ўкралі 8 мяхоў калосься.

ПЕРАРОСЬЛЬ. Тут апынуўся ўцёкшый з аднаго прытулку ў Бэрліне 12-гадовы хлопец, каторы прыехаў «зайцам» і перайшоў цераз граніцу.

МАЛЯТЫ. Тут зьявіліся ваўкі якія парэзалі ў сялян многа авец, сьвіней і жарабят.

СУВАЛКІ. На карысьць дзяцей варочаючыхся ўцекачоў тут быў устроен спэктакль. У перарывах маладыя жанкі прадавалі кветкі і розныя дробныя рэчы.

ВІЛКАВІШКІ. Дзяўчына 20 гадоў, служыўшая ў аднаго селяніна, урадзіла ў часе работы ў садзе дзіця і задушыла яго. Суд засудзіў дзяўчыну на 6 мес. у вастрог.

СЭЙНЫ. Тут у восені адкрываюцца 30 новых літоўскіх школ. У сувальскім пав. — 74.

ОРЦЕХОВІЧЫ. У бярэзьніку тут залажылі ваенны магільнік. Сюды перанесены трупы ваякоў. пагібшых у бітвах у 1914 і 1915 гадох.

КОУНА. З Украіны да нас прыехала назад больш за 1.000 ўцекачоў-літвіноў.

ЛІБАВА. Засуджаны за забойства і спробу забойства ўчасьнік разбойніцкай банды, Людвік Станкевіч, разстрэлен.

РЫГА. Прайшоўшай тут навальніцай зроблена зьнішчэньне ў 10 грамадах. Аб сіле ветру можна судзіць з таго, што ў іншых мясцох ён перакідаў цяжкія бэлькі больш чым на 50 мэтраў. Асабліва пацярпелі грамады Сьмільтэн і Аўмэйстэр. Паласа зьнішчэньня мае ўшыркі да 350 м. а ўдаўжкі — 10 кіл. Катастрофа адбылася менш чым у 30 мінут.

РЫГА. Адозва шляхоцкага зьезду да маладога насяленьня Балтыцкага краю, каб пастулалі да нямецкай арміі, падбіла да гэтага многа маладзежы. Дабравольцы маюць права выбіраць, у якой часьці хочуць служыць.

## Украіна.

КІЕУ. Загадам міністра земінных спраў з 29 жніўня касуюцца найвышэйшыя цэны на прадукты і дапускаецца вольны гандаль салам, маслам, млечнымі прадуктамі, яйкамі, бульбай, гароднінай і рыбай.

С прычыны даражыні паперы і ўсё ўзрастаючай платы работнікам адміністрацыя „Гомана“ прымушана па прыкладу другіх газэт павялічыць цану свае газэты.

Пачынаючы ад 1 кастрычніка 1918 году асобны нумэр „Гомана“ будзе каштаваць 10 фэн., за месяц у месьце — 70 фэн., ва ўсім краю і заграніцай — 90 фэн.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

МАСКВА (П.Т.А.). 10.IX. У ночы на 9 верасьня савецкія войскі ўвайшлі ў Казань. Чэха-славакі ўцяклі. Нашы лятуны гоняцца за імі.

На сямірэцкім фронце мы занялі Самарканд. Ворагі адыходзяць на Ташкент.

ПЕЦЯРБУРГ. Каля Тограў савецкія войскі зусім разграмілі англіцкі атрад с 500 душ.

Англічане йдуць у Карэліі ў кірунку фінляндзкай граніцы. Яны набіраюць дабравольцаў у ваколіцах мурманскай чыгункі. Паводлуг іншых вестак, яны загадалі агульную прымусовую мобілізацыю мужчын ад 18 да 40 гадоў.

ТОКІО. 29.IX. Урадова Японская кавалерыя пад Краснаярскам атакавала ворагаў і разагнала іх з цяжкімі стратамі.

МАСКВА. «Беднота» наказывае аб арыштце членаў расейска-эстонскага камітэту, каторы меў зносіны з англіцкім консулам Лёкгардам.

ЛОНДОН. «Morning Post» наказывае, што англіцкаму глаўнакамандуючаму ў Архангельску загадана арганізаваць экспэдыцыю дзеля вызваленьня арэштаваных у Расеі англіцкіх падданых.

ПЕЦЯРБУРГ. 7.IX. **Урадова.** Урадова наказываецца, што ў адказ на забойства Урыцкага расстрэлены 500 арыштаваных контррэвалюцыянэраў, у тым ліку 10 правых соц.-рэв. Апублікован спіс 121 асоб, каторыя будуць расстрэлены пры першым новым пакушэньні проці большэвіцкіх кіраўнікоў. У тым ліку—некалькі вялікіх князёў.

МАСКВА (П.Т.А.). 10.IX. 6 верасьня прайшоў крызыс у палажэньні Леніна. Яго здароўе цяпер папраўляецца з дня на дзень.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Фінляндзкія газэты наказываюць аб надзвычайным нездавольстве ў Пецярбурскай губэрні, дзе савецкі ўрад загадаў мобілізацыю мужчын і каней. Сяляне адмовіліся споўніць гэты загад, захапілі Балтыцкую дарогу і часьцю зьнішчылі яе. Да расейскіх сялян прылучыліся такжа эстонцы, каторыя аб'явілі вайну большэвіком і немцам. Аднак, паўстаньне скора было затушана, пры чым забіта многа сялян.

## З усяго сьвету.

ГААГА. Рэзультат забастоўкі служачых на трамваі і паліцэйскіх у Англіі вызваў неспакой. Баяцца забастоўкі на чыгунках, пажарнікаў і пачтавікоў. Саюз работнікаў баваўняных фабрык пастанавіў забаставаць, калі гаспадары ня споўняць іх дамаганьняў.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкія апавяшчэньні.**

**10.IX. Заходні тэатр.**

На поўначы ад Мэркэм і на паўночным усходзе ад Іпра ворагі ўварваліся на кароткія адрэзкі нашых акопаў. Наабапал Пэррон-Камбрэ англічане штурмавалі далей. Ворагі адкінуты. Нашы пярэднія дружыны мелі ўчора стычнасьць з слабымі варожымі часьцямі на лініі Дэсін—Вандэй. Мясцовыя бітвы на паўдня ад Уаз. Агонь артылерыі на поўначы ад Айет. Між Айет і Эн пасьля гарачай артылерыйскай бітвы пачаліся паўторныя сільныя штурмы ворагаў, каторыя адбіты. Між Эн і Вэльмы адбілі наступленьне французаў. Нашы опэрацыі на ўсходзе ад Рэймсу і пры Паруа, на Лётарынгскім фронцэ, былі ўдачны.

---

чок — няпоўны. Ен тады кажа сваім братом: нешта наш гаршчок няпоўны! Тады выняў другі гаршчок, — і другі няпоўны. Тады ён кажа: у нас сяньні нехта ёсьць! Яны кажуць: можа яны так чаго няпоўны! Ен ім на гэта нічога не сказаў, выставіў і трэці гаршчок. І трэці няповен. Тады ён кажа: „не, нехта ёсьць, пашукаем!“ Яны тады кажуць: хто ё ў нас, вылазь! А то пасьля абеду зьядзём! Тады яна вылезла з падпечча і пашла. Яны пазналі яе і пасадзілі з сабой абедаць. Ела, ела яна, тады звалілася ў яе ложка. Яна стала падымаць ложку і ўвідзела ў іх хвасты ваўковы. Яна спужалася і ня стала есьці. Тады яны кажуць: чаму не ясі! — Дзякуй, пад'ела, не хачу! Тады яны кажуць ёй: бяжы, не далёка стаіць ліпіна; узьлезь на ліпіну і сядзь там. І сем гадоў не гавары і ня плач. Тады мы да цябе вернемся. Яна пабегля, узьлезла на ліпіну і села. Відзіць бягуць тыя ваўкі. Прыбеглі да ліпіны і пачалі ліпіну грызьці. Грызьлі, грызьлі, зубы паламалі, і пабеглі ў лес. Каля тае ліпіны ехаў нейкі пан. Увідзеў пад ліпінай агонь, і захацеў закурыць, і прыслаў свайго возьніка закурыць папіроску. Тады возьнік закурыў папіроску і кажа: сядзіць на ліпіне паненка нейкая, дужа прыгожая. Пан кажа на яго: дастань мне яе! Возьнік палез і дастаў. Тады пан узяў яе да сябе ў буду і паехаў. Прыбеглі тыя ваўкі, палядзяць — няма сястры. І пабеглі за панам. Дагналі пана і сталі буду ірваць. Пан стаў страляць і ўцёк у вёску, а ваўкі вярнуліся ў лес. Пан гэны быў нежанаты. Ен прыехаў і захацеў з ёй жаніцца. І пытаецца: ці пойдзеш ты за мяне? Яна маўчыць. Тады ён кажа сваёй матцы: буду з ёй жаніцца! А матка кажа: як ты будзеш жаніцца, калі яна нямая. Ну хай сабе! ажанюся! І паехаў павеньчаўся. Прыехаў дамоў — нічога ня кажа жонка. Тады матка кажа: а што, я табе казала не жаніцца. А ты ажаніўся, — цяпер і жыві як хочаш. Пражыў ён год, пражыў і другі, на трэці год радзіла яна сына. А яго ня было ўдварэ, пашоў на паляваньне. Матка тая ўзяла, зарэзала дзіцянё і памазала нявестцы від (твар) крывёй, а дзіцянё пад падмосьце кінула. Прышоў пан з паляваньня, матка кажа: вось, глядзі, сынку! Я табе казала не жаніцца, а ты не паслухаў, вась так і жыві! — А што? — А йдзі палядзі, што яна зробіла! Прышоў ён да жонкі, ажно яна радзіла і зарэзала дзіцянё, і маўчыць і ня плача. Тады цераз год, пайшоў ён узноў на паляваньне, а жонка радзіла. Матка ўзноў зарэзала дзіцянё, а яе памазала крывёй. Прышоў сын с паляваньня, матка яму і кажа: а што я казала: не жаніся. Палядзі, што яна зробіла! Ен узноў прышоў да яе. „Што гэта ты зробіла?“ А яна маўчыць і ня плача. Ен і цяпер нічога ёй ня зробіў. Прыйшоў ён праз год яшчэ на паляваньне, а яна ўзноў радзіла сына. Матка ўзяла зарэзала і гэтага. Прышоў яе сын з паляваньня, яна яму і сказала. Ен на гэты раз усярдзіўся і стаў сваю жонку біць. А яна маўчыць. Ен тады загадаў зробіць чыгунную печ, і ўкінуў жонку ў печ і запёр там. Аж якраз вышла сем гадоў. Прыходзяць яго швагры, і яе браты і пытаюцца: ці тут наша сястра? — Тут, але яна памёрла ўжо! — Ну, пакажы, дзе яна? Павёў ён іх туды. Яны разламалі печ, яна й вылезла з печы, і жыва. Тады браты сталі рады і сталі пытацца ў сястры: як яна папала ў печку. Яна расказала ім, што матка рэзала дзяцей маіх і кідала пад падмосьце, а мне ня можна было гаварыць. Тады адчынілі падмосьце, аж там дзеці жывыя, і большанькі дзяржыць меньшых. Тады матку прывязалі да коньскага хваста і пусьцілі коні ў поле.

11.IX. Заходні тэатр.

Адбіваючы мясцовыя наступленьні англічан на паўдня ад Іпра і на поўначы ад каналу Лябассэ мы ўзялі палонных. На паўдня ад дарогі Пэррон-Камбрэ англічане вялі вострыя атакі. Контратакай мы адкінулі іх і ўзялі 300 палонных. Наабапал чыгункі Гам—Ст. Кантэн адбіты францускія наступленьні. Мясцовыя бітвы на поўначы ад Айет і Эн, пасьля сільнага артылерыйскага агню, ворагі ўвечары атакавалі вялікімі сіламі, але былі адбіты перад нашымі лініямі.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. На конфэрэнцыі дэпутатаў ад прафэсыянальных саюзаў член Рэйхстагу Легін у сваей прамове між іншым сказаў:

„Падводная вайна, якая гэтак абурывае амэрыканцаў была адказам на дзякую спробу англіцкага ўраду адрэзаць падвоз прадуктаў у Нямеччыну і замарыць голадам нашых жонак, дзяцей і старых. Кіраўнікі амэрыканскіх работнікаў вядуць цяпер палітыку, каторая ня мае нічога супольнага ані з інтэрнацыяналізмам, ані з інтарэсамі работнікаў. Мы жджэм, што ў канцы культурныя пагляды ўсё-ж такі адаб'юцца на настраеньні работнікаў у саюзьніцкіх дзяржавах".

Конфэрэнцыя згодзілася з Легінам і пастанавіла апублікаваць яго прамову.

РОТТЭРДАМ. На трэйцім конгрэсе англіцкіх работніцкіх прафэсыянальных саюзаў прынята рэзалюцыя, у каторай гаворыцца: „Конгрэс прызывае ўрад пачаць ураз-жа мірныя перагаворы, як толькі ворагі самахоць ці пад прынукай ачысьцяць Францыю і Бэльгію.

БАЗЭЛЬ. Льлёйд Джордж заявіў членам парлямэнту, што ня лічыць патрэбным адказываць на вядомую мірную прамову нямецкага статс-сэкрэтара Сольфа.

ЛОНДОН. Урадова. У жніўні англіцкія страты даходзяць 4.214 афіцэраў і 43.455 салдатаў. За апошнія 6 месяцаў мы ўтрацілі 28.330 афіцэраў і 455.318 салдатаў.

ЛЮГАНО. Італьянскі ўрад рэквізаваў усе італьянскія судны больш за 500 тонн дзеля ўрадовых патрэб на час ад 18.VIII. 1918 да 31.XII. 1920 г.

БЭРЛІН. У апошніх бітвах на заходнім фронце пагіб ротмістр прынц Саска-Ваймарскі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 9.XI. У Сярэдземным моры нашы падводныя лодкі затапілі 17.000 тонн.

Адна з нашых падводных лодак увайшла ў баронены сталёвымі сецямі порт Стаўрас, у Эгэйскім моры, узарвала англіцкі крэйсэр 5.700 тонн і вярнулася цэлая назад.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 10.IX. Нашы падводныя лодкі ізноў затапілі 23.000 тонн.

---

## Беларускія народныя песьні

### Жніўныя.

Выйдзі ведзьма!
Выйдзі ведзьма з майго жыта
Выйдзі ведзьма з майго жыта!
——
Маё жыта,
Маё жыта каласіста,
Маё жыта каласіста.
——
Каласіста
Каласіста ядраніста.
Каласіста ядраніста.
——
Выб'ю зубы!
Выб'ю зубы галаўнёю,
Выб'ю зубы галаўнёю.
——
Высмалю вочы!
Высмалю вочы ўсё сьвячою,
Высмалю вочы ўсё сьвячою.
——
Чыя жана,
Чыя жана казой была?
Чыя жана казой была?
——
Казой была,
Казой была, на дуб лезла,
Казой была на дуб лезла.
——
На дуб лезла,
На дуб лезла, кару грызла,
На дуб лезла, кару грызла.
——
З дубу лезла,
З дубу лезла—звалілася,
З дубу лезла—звалілася.
——
Звалілася,
Звалілася, разьбілася,
Звалілася, разьбілася.
——

*Смаленская губэрня.*

Казалі: «ляжалі»,
А мы жыта зжалі,
Жнеі маладыя
Сярпы залатыя.
Топкаўскія жнеі,
Што чорныя зьмеі,
Жнеі ўсе благія,
Сярпы лубяныя,
Яны ўсё ня жалі,
Пад мяжой ляжалі;
Топкаўскае поле
Задрамала стоя.
——

### Дажынкавыя.

*Гродненская губэрня.*

Ды ішоў Бог дарогаю
Ды з вялікаю талокаю:
Гаспадарык ля варот стаіць,
Ды ў руках шапачку дзяржыць.
«Да ка мне, Божа, ка мне,
Да з сваёю талакою,
Поле ў мяне далёкае,
Жыта маё буйненькае,
Да няма каму на постаці стаці,
Маё жыта зажынаці:
Маці мая старэнькая,
Сястрончка маленькая,
А жоначка маладзенькая».
——
Каціўся вянок з поля
І прасіўся да пакою:
„Не хавайся, пане, пад лаву,
Да выйдзі да нас на расправу:
Да мы будзем распраўляцца,
За вянок таргавацца,
Мы будзем рубля браці,
Бо нам было цяжка жаці.
Дай, нам, пане, чырвон злоты,
Бо мы жалі для ахвоты.

---

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман.» Рэдактар Язэп Салавей.